ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Кніга Ноша
№ 46
кастрычнік, 2017
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

■ **АЎТОГРАФ**

## Лявон БАРШЧЭЎСКІ:

# «Найперш трэба пазнаваць скарбы беларускай мовы...»




**– Шаноўны Лявон Пятровіч, нядаўна выйшла Вашая новая кніга «Словы і вобразы: літаратура і мастацтва ад старажытнасці да канца XVIII стагоддзя», у якой у канцэнтраванай, сціслай форме выкладаецца гісторыя літаратуры і мастацтва. Як нарадзілася ідэя гэтай кнігі?**

– Гэтая кніга, як і некалькі папярэдніх, – плён працы маёй і маіх калег (найперш – Міхася Тычыны і Пятра Васючэнкі) у Беларускім гуманітарным ліцэі, вынік супрацоўніцтва з гэтым ліцэем. Яшчэ ў 1990-я гады былі выдадзеныя некалькі хрэстаматый па сусветнай літаратуры (першыя ў нашай гісторыі!), у 2003 годзе з'явілася кніга «Літаратура ад старажытнасці да пачатку эпохі рамантызму», у 2006 годзе выйшаў двухтомнік «Беларуская літаратура і свет», у 2015–2016 гадах – кнігі «Словы ў часе: Літаратура ад рамантызму да сімвалізму і нашаніўскага адраджэння» і «Словы ў часе і прасторы: Літаратура апошняга стагоддзя». Вось цяпер падрыхтаваныя нарысы «Словы і вобразы», у якіх сусветны і беларускі літаратурны працэс падаецца ў кантэксце дасягненняў замежнага і айчыннага мастацтва. Пакуль што выйшла першая частка, якая ахоплівае эпохі ад першабытнага грамадства да еўрапейскага Адраджэння. Спадзяюся, што налета будзе выдадзеная і другая частка, прысвечаная XVII і XVIII стагоддзям. Кніга «Словы і вобразы» багатая на тэксты – як арыгінальна-беларускія, так і перакладныя (у тым ліку створаныя на іншых мовах тэксты нашай літаратуры).

**– Вас ведаюць як укладальніка шматлікіх слоўнікаў, рэдактара серыі «ЕўраГраматыкі», аўтара «Кароткай граматыкі польскай мовы», «Беларуска-польскага размоўніка-даведніка», суаўтара «Кароткай граматыкі латышскай мовы», «Кароткай граматыкі нідэрландскай мовы», «Кароткай граматыкі нямецкай мовы», рэдактара перакладаў і, безумоўна, як перакладчыка са шмат якіх моваў. Што б Вы параілі маладым перакладчыкам, якія толькі пачынаюць свой шлях?**

– Да вышэйзгаданага пераліку я дадаў бы 28-моўны «Еўраслоўнік», які згадваецца і ў выдадзенай дзяржавай «Энцыклапедыі для школьнікаў і студэнтаў "Беларуская мова"».

А перакладчыкам я заўсёды раю адно: найперш трэба пазнаваць скарбы беларускай мовы, а тады вы непазбежна захочаце заглыбляцца і ў іншыя.

*(Працяг на стар. 7)*

**Даведка «Кніганошы»:**

**Лявон Баршчэўскі – філолаг, перакладчык. Аўтар кніг перакладаў Б. Брэхта «На шалях праўды» (1988), Г. Бёля «Більярд а палове дзясятай» (1993), С. Выспяньскага «Вяселле» (2014), «І боль, і прыгажосць...: выбраныя творы паэтаў Еўропы і Амерыкі ў перакладах Лявона Баршчэўскага» (2016), К. Гамсуна. «Голад» (2017) і інш. Нарадзіўся 1958 г. у Полацку. Жыве ў Мінску.**

# ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Пташнікаў Іван. Выбраныя творы. Уклад. прадм., камент. С. Андраюка. – Мінск: Беларуская навука, 2017. – 572 с.: [4] л. іл. – (Беларускі кнігазбор: БК. Серыя І, Мастацкая літаратура).**

Кнігу Івана Пташнікава (1932–2016), вядомага беларускага празаіка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа, склалі самыя значныя яго творы – аповесці «Тартак» (па ёй быў пастаўлены на беларускім тэлебачанні аднайменны тэлефільм), «Ненапісаная аповесць», найлепшыя апавяданні, успаміны. Многія з гэтых твораў пад кніжнай вокладкай друкуюцца ўпершыню. Гэта ўжо дзевяноста трэці том кніжнага праекта «Беларускі кнігазбор».




**Фарухсад Атэна. Белая нізка. Пер. Са шведскай Дзмітрыя Плакса. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 68 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 98).**

Пытанні прыналежнасці, свайго месца ў грамадстве, памяці і надзеі на будучыню – цэнтральныя ў паэтычным шматгалоссі Атэны Фарухсад. Паэтка вядзе чытача праз сямейны эпас рэвалюцыйнай рамантыкі, пераследу, гвалту і штодзённага побыту ў новай краіне. Нягледзячы на пэўную спецыфіку, гэты шлях лёгка пазнавальны амаль для кожнага і мала каго можа пакінуць абыякавым.




**Ліпай Алесь. Абдымкі: кніга паэзіі. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 136 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 99).**

Алесь Ліпай, творы якога даволі рэдка можна пабачыць на старонках перыядычнага друку, парадаваў чытачоў сваёй чарговай кнігай. Аснову яе склалі лірычныя вершы, якія сам паэт анансаваў зусім коратка: «Бог. Беларусь. Каханне».




**Карамазаў Віктар. Пад крыжам: кніга прозы. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 144 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 100).**

Кніга «Пад Крыжам» – гэта аповесць пра вялікага беларускага мастака-пейзажыста Фердынанда Рушчыца «Зямля Фердынанда», навелы пра выдатных сучасных пейзажыстаў Марыю ды Міколу Ісаёнкаў, Антона Вырву і развітальнае апавяданне са зніклай у чарнобыльскай бядзе вёскай Лімень на Магілёўшчыне, якая па-ранейшаму жыве ў памяці і сэрцы пісьменніка. Цікава, што ў афармленні вокладкі кнігі скарыстана карціна пісьменніка-мастака.




**Дудар Алесь: выбраныя творы. Уклад., прадм., камент. Ганна Севярынец. – Мінск: Лімарыус, 2017. – 480 с.: іл. – (Галасы Айчыны).**

У выданні прадстаўлены збор шматграннай творчай спадчыны паэта, празаіка, перакладчыка, крытыка Алеся Дудара (1904–1937), аднаго з самых заўважных творцаў міжваеннай літаратуры Беларусі. Значная частка твораў, матэрыялы з асабістага архіва і фотадакументы друкуюцца альбо перавыдаюцца ўпершыню.




**Запруднік Янка. Берагу майго зарніцы: Паэзія (1946–2017), Дзённік (1949–1954). – Мінск: Лімарыус, 2017. – 264 с.: іл.**

У новай кнізе Янка Запруднік знаёміць чытача з вершамі, пісаць якія пачаў у Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне, і дзённікам часу свайго навучання ў Лювенскім універсітэце. Кніга цікавая дакументальнымі падрабязнасцямі, у ёй выразна выяўлена, як адданасць беларускай ідэі гартавала характар маладога чалавека, як служэнне Беларусі рабілася справай усяго жыцця.




**Сільнова Людка. Матылёк на кары дрэва: зборнік вершаў. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2017. – 126 с.**

Зборнік лаўрэата прэміі «Залаты апостраф-2014» складаюць вершы пра ўнутраны свет жанчыны, унучкі вёскі і сучаснай гараджанкі, якая месіць мову, як цеста для піражкоў з чырвоным ягадным варэннем, каб забаць іх з сабой у парк, на прыроду. І на пледзе, падобным да карычневага футра мядзведзя, гартаць разам з ветрам кніжку, назіраць за палётам матылька і смакаваць па кавалачках – па складах і асобных словах – слодыч мяккай матчынай мовы.




**Дойл Артур Конан. Знак чатырох: аповесці. Пер. з англ. Кацярыны Маціеўскай, Ганны Янкуты. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2017. – 272 с. – (Бібліятэка часопіса «ПрайдзіСвет» «PostScriptum»).**

У новую кнігу серыі «ПрайдзіСвет» увайшлі два неўміручыя творы Артура Конана Дойла – «Эцюд у пунсовым» (1887) і «Знак чатырох» (1890). Гэтыя аповесці адкрываюць дэтэктыўны цыкл пра любімых чытачамі з усяго свету Шэрлака Холмса і яго памочніка доктара Ўотсана і даюць хай і трохі супярэчлівыя, але пазнавальныя характарыстыкі герояў. Абодва творы выходзяць па-беларуску ўпершыню.

# МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Маркес Габрыель Гарсія. Каханне падчас халеры: раман. Пер. з ісп. Карласа Шэрмана. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2017. – 368 с. – (Серыя «Noblesse Oblige»).**

«Каханне падчас халеры» – раман знакамітага калумбійскага пісьменніка, лаўрэата Нобелеўскай прэміі 1982 года Габрыеля Гарсія Маркеса (1927–2014). Прыгажуня Фэрміна Даса адмовілася выйсці замуж за Флярэнтына Арысу, якога кахала. І пабралася шлюбам з іншым. Флярэнтына ж не траціў надзеі некалі падзяліць з каханай шчасце сумеснага жыцця. Праз пяцьдзясят тры гады, сем месяцаў і адзінаццаць дзён яго мара здзейснілася.




**Жвалеўскі Андрэй, Пастэрнак Яўгенія. Гімназія № 13: раман-казка. Пер. з рус. Раісы Баравіковай. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2017. – 376 с.**

Вучні 7-га класа гімназіі № 13 трапляюць у неверагодную казачную гісторыю, у якой сутыкаюцца з сапраўднымі язычніцкімі багамі і рознымі міфічнымі істотамі. Час раптам спыніўся, а дапамогі і паратунку чакаць няма адкуль. Прыходзіцца добра паламаць галаву, каб вярнуцца ў нармальны свет... З 2010 года раман «Гімназія № 13» вытрымаў пяць выданняў на рускай мове, агульным накладам больш за 20 тысячаў экзэмпляраў. Кніга адзначана ў Расіі прэстыжнымі літаратурнымі ўзнагародамі. На беларускай мове выдаецца ўпершыню.




**Зізюк Міхась. Энерджы і дзеці з 5 «А»: казачная аповесць: для дзяцей мал. і сярэд. шк. узросту. Маст. В.В. Архіпенка. – Мінск: Пачатковая школа, 2017. – 68 с.: іл.**

Паша Каморнік, неслух і гарэза, ніколі не думаў, што ў яго звычайнай гімназіі можа здарыцца штосьці неверагоднае. Але ж як ён памыляўся! Злы чараўнік Марнатраўца вырашыў захапіць Пашаву гімназію. І не толькі яе... На шчасце, Паша і яго аднакласнікі змагаюцца не адны. Іх саюзнік – чароўны хлопчык Энерджы. З яго дапамогай дзеці не толькі атрымаюць шанс на перамогу, але і навучацца па-сапраўднаму любіць і берагчы нашу Зямлю.




**Сіўко Франц. Штрыхкоды: эсэ. – Мінск: Галіяфы, 2017. – 172 с.**

Слоўная эквілібрыстыка ў працэсе пісьма цікавіць аўтара кнігі ў той ступені, у якой спрыяе найбольш дакладнай падачы факта. Голы факт, так бы мовіць, штрыхкод рэчы, падзеі, уражання пры гранічнай сцісласці мастацкага аздаблення – вось яго мэта ў такім жанры, як эсэ. Слова для яго – матэрыял, з якім ён падчас працы абыходзіцца і даволі бесцырымонна, і разам з тым – паважліва. Пра што і сведчыць дадзены зборнік эсэ, складзены з ужо друкаваных раней і новых твораў.




**Мароз Вікенцій. Перажытае-незабытае: успаміны, аповеды, краязнаўства. – Мінск: Галіяфы, 2017. – 324, [12] с.**

Народжаны на гістарычнай Нясвіжчыне ў беларускай сям'і, сябра Саюза беларускай моладзі падчас вучобы ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі ў гады акупацыі, жаўнер Другой арміі Войска Польскага ў Другой сусветнай вайне, настаўнік мовы і літаратуры ў мірным працоўным жыцці, Вікенцій Мароз ёсць увасабленне сапраўднай беларускай душы, адданы сын сваёй зямлі. Кніга Вікенція Мароза «Перажытае-незабытае» – гэта не толькі экзістэнцыя асабістага жыцця чалавека з пакручастым лёсам на драматычных зломах беларускай гісторыі, але і жывы выразны адбітак складанага і трагічнага часу, які ўвабраў і жыццё пад Польшчай, і першыя Саветы, і жыццё пад акупацыяй, і вайну, якой аддадзены два з паловай гады, і пасляваенны перыяд з усімі яго калізіямі.




**Панізьнік Сяргей. Выбранае: Паэзія за паўстагоддзя творчай працы. Уклад. і прадм. Аксені Тарасевіч. – Мінск: Тэхналогія, 2017. – 215 с., [4] арк. іл.**

У зборніку змешчаны найлепшыя творы з папярэдніх паэтычных выданняў Сяргея Панізьніка – адважнага рыцара нашай лірыкі, нястомнага абаронцы межаў Вялікага Княства Беларусі, стараннага вучня яе славутых сыноў, удумнага збіральніка народных скарбаў. Вершы адлюстроўваюць увесь творчы і жыццёвы шлях аўтара: Апіеву дарогу, што вядзе праз спецфонды Альбова, палігоны Уручча, Карлаў мост, палацы Перабудовы, праз Волту-Рубікон аж да роднага прыдзвінскага парога, дзе ўсё гэтак жа гучаць песні бабулі Альжбеты, зіхацяць світальныя зоркі кахання, а мудрыя продкі вучаць пакідаць слова на дабрыдзень, каб і далей саграваў людзей «кастры любові і шчодрасці».




**Панізьнік Сяргей. Аблічча сустрэчаў: нататкі. – Мінск: Медысонт, 2017. – 144 с.**

У новую кнігу Сяргея Панізьніка ўвайшлі дапрацаваныя ў апошнія гады нататкі пра пісьменнікаў, навукоўцаў і дзеячаў культуры, з якімі аўтар асабіста сустракаўся.




**Жуковіч Васіль. Замова ад рабства: кніга паэзіі. – Мінск: Каўчэг, 2017. – 152 с.**

У тэматычна багатай кнізе паэтам не ўтойваюцца найвастрэйшыя, самыя балючыя праблемы сучаснага жыцця. Яго найбольш хвалюе будучыня роднай краіны, лёс яе мовы, духоўнасці, незалежнасці. У выніку з чытачом працягваецца шчырая і пранікнёная гамонка, распачатая ў ранейшых зборніках. Многія старонкі прысвечаны мужным і мудрым сынам Бацькаўшчыны.

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Арлоў Уладзімір. Танцы над горадам. – Вільня: Логвінаў, 2017. – 196 с.**

Гэта новая кніга, аднаго з самых улюбёных беларускіх празаікаў апошніх трыццаці гадоў. Героі аповесці «Танцы над горадам», што дала назву кнізе, – самнамбулы. Удзень яны незнаёмыя паміж сабой, а ўначы ўтвараюць сваё таемнае брацтва. Для шырокага кола аматараў метафізічных вандровак.




**Бабкоў Ігар. Хвілінка. Другая кніга. – Вільня: Логвінаў, 2017. – 220 с.**

Другая кніга завяршае падарожжа праз эпохі, распачатае 24 жніўня 1984 года трыма сябрамі ў ленінскім пакоі гістфакаўскага інтэрната на Свярдлова, 34. Францішак блукае па віленскіх лабірынтах у пошуках залатой маскі, Эва Дамініка ўцякае з краіны, але вяртаецца да сябе, Багдан радыкальна мяняе краявіды ўнутры і навонкі. І толькі аўтар (не блытаць з Аўтарам) увесь гэты час цярпліва стаіць за стойкай бара ў Хвілінцы, спрабуючы расказаць (каму?) пра сваё жыццё, пра раман і пра тое, як усё з усім пераблытана.




**Коман Дарота. 36 м2 думак. Пер. з польскай Андрэй Хадановіч. – Вільня: Логвінаў, 2017. – 124 с.**

Дарота Коман (Dorota Koman) – адна з найцікавейшых сучасных польскіх паэтак і, магчыма, найлепшая ў Польшчы аўтарка свайго пакалення. У беларускае выданне ўвайшлі выбраныя вершы з усіх выдадзеных да сёння зборнікаў аўтаркі ў перакладах Андрэя Хадановіча. Завяршае кнігу нізка вершаў, яшчэ не апублікаваных у Польшчы, якія аўтарка ласкава прадаставіла свайму перакладчыку.




**Шульман Давід. Жанчына валіць з ног, жанчына ставіць на ногі. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2017. – 228 с.**

Проза беларускага пісьменніка Давіда Шульмана захапляе гумарам, горыччу і эротыкай. Уражвае ўменне аўтара і ягоных герояў радавацца самым розным праявам таго найвялікшага дзіва, якое называецца жыццём.




**Барщевский Вадим. Тогда и получаются стихи...: избранные стихотворения, 1967–2005. – Минск: Издатель Змицер Колас, 2017. – 80 с.**

Невялікая падборка вершаў аднаго з самых вядомых віцебскіх незалежных журналістаў Вадзіма Баршчэўскага (нар. у 1950 г. у Полацку), сабраная пад ўкладкай прапанаванай кнігі, можа стаць адкрыццём для самага патрабавальнага чытача.




**Кавафіс Канстандзінас. Выбранае. Пер. з навагрэцкай Лявона Баршчэўскага. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2017. – 88 с. (Паэты планеты).**

Канстандзінас Кавафіс (1863–1933) – сёння агульнапрызнаны як найбуйнейшы сярод паэтаў, якія пісалі на навагрэцкай мове. Тым не менш, пры жыцці ён быў амаль не вядомы і большую частку свайго паэтычнага дарobку стварыў, ужо дасягнуўшы саракагадовага ўзросту.




**Чакс Аляксандр. Выбраныя вершы. Пер. з латышскай Васіля Сёмухі. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2017. – 112 с. (Паэты планеты).**

Аляксандр Чакс – латышскі паэт і празаік. Друкаваўся з 1925 г. Прызнаны урбаніст, пясняр прадмесцяў, дзе жыў звычайны працоўны люд; майстар вольнага верша. Найбольш плённы перыяд яго творчасці – 30-я гады XX стагоддзя, эпоха першай латвійскай незалежнасці. Вершы і паэмы Чакса публікуюцца ў перакладзе выбітнага беларускага творцы Васіля Сёмухі.




**Сэнт-Экзюперы Антуан дэ. Маленькі прынц. Пер. з французскай Ніны Мацяш пад рэд. Зм. Коласа. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2017. – 108 с. [іл].**

«Маленькі прынц» – самы вядомы твор французскага пісьменніка і авіятара Антуана дэ Сэнт-Экзюперы. Гэта таксама і найбольш чытаная кніга, напісаная на французскай мове. Яна перакладзеная больш як на 300 моваў і дыялектаў і была выдадзеная ва ўсім свеце агульным накладам, які перавышае 140 мільёнаў асобнікаў. Адрасуецца ў першую чаргу дзецям, але таксама дарослым, якія памятаюць, што і яны былі дзецьмі.




**Папковіч Уладзімір. На шалях лёсу: вершы. – Віцебск: Копіцэнтр «Колер», 2017. – 108 с.**

Новы зборнік вершаў Уладзіміра Папковіча традыцыйны і па форме, і паводле зместу. Гэта роздум пра доўгае і складанае жыццё. Аўтар не толькі азіраецца ў мінулае ці гадае, што будзе далей, але, нават часцей, аналізуе сваю існасць ды імкнецца зразумець, што ж сфармавала яго як чалавека, як асобу – гены, выхаванне, асяроддзе, час. Таму так часта паўтараецца займеннік «я». А побач з гэтым «я» (ці ў сярэдзіне яго) – маці, родны кут ды незадаволенасьць сабой, прага самаўдасканалення. Ці не яны фармуюць на працягу ўсяго жыцця душу, сумленне?




**Бужыньска Анна. Тэорыі літаратуры ХХ стагоддзя / Анна Бужыньска, Міхал Павел Маркоўскі; прадм. Ганна Бутырчык; навук. рэд. Лявон Баршчэўскі. – Мінск: Медысонт, 2017. – 628 с.**

У кнізе «Тэорыі літаратуры ХХ стагоддзя» вядомыя польскія літаратуразнаўцы Анна Бужыньска і Міхал Павел Маркоўскі зрабілі агляд найважнейшых тэорыяў літаратуры мінулага стагоддзя ад псіхааналізу да посткаланіялізму. Аўтары прыклалі ўсе намаганні, каб багацце зместу і кампетэнтны аналіз спалучаліся з яснасцю і празрыстасцю расповеду. Кожнай з асобных плыняў тэорыі літаратуры прысвечаны асобны раздзел, дапоўнены карыснымі дадаткамі: тлумачэннем ключавых паняццяў, храналогіяй і шырокай бібліяграфіяй. Напрыканцы змешчаная раскладная «мапа» тэорый літаратуры. Кнігу можна параіць як будучым літаратуразнаўцам, так і студэнтам іншых гуманітарных спецыяльнасцяў.




**Баршчэўскі Лявон. Словы і вобразы: літаратура і мастацтва ад старажытнасці да канца XVIII стагоддзя. Ч. І. Ад пачаткаў да эпохі Адраджэння. – Мінск: Зміцер Колас, 2017. – 456 с.**

На падставе аналізу канкрэтных твораў розных часоў і народаў разглядаюцца найважнейшыя этапы станаўлення літаратуры і мастацтва – ад старажытнасці да канца эпохі Адраджэння. Беларуская літаратурна-мастацкая традыцыя паказваецца як нацыянальнае праяўленне агульнаеўрапейскага культурніцкага руху. У кнізе даецца вызначэнне значнай колькасці найважнейшых тэрмінаў і паняццяў мастацтва- і літаратуразнаўства, філасофіі культуры і некаторых сумежных галін ведаў. Адрасуецца ўсім, хто цікавіцца пытаннямі гісторыі і тэорыі літаратуры і мастацтва.




**Паўловіч Уладзімір. Сімвалічнае і рэальнае на гравюрах Францішка Скарыны: манаграфія. – Мінск: Галіяфы, 2017. – 80 [1] с.**

У Бібліі Рускай (1517–1519) Францішак Скарына ставіць мэтай давесці да чытача сутнасць БОЖЕСТВЕНОЙ И ЖИТЕЙСКОЙ МУДРОСТИ. Каб вырашыць пастаўленую задачу ў рэлігійнай кнізе, Скарына шырока карыстаецца рэбусамі і сімваламі, якія бліскуча зніталаваны лагічнымі схемамі з жыццёвымі сюжэтамі фонавых малюнкаў буквіцаў, а таксама жанравых гравюраў – свецкімі па змесце і біблейскімі па назве. Творы кніжнай графікі Скарыны падзелены на чатыры катэгорыі: простыя, адмысловыя, спатменныя, анагагічныя. Апісаны спосабы прачытання рэбусаў і сімвалаў, якімі карысталіся мастакі эпохі Адраджэння. Выяўлены новыя старонкі не толькі Францішка Скарыны, але і Яна Севярына – гравёра, выдаўца і ўладальніка самай вялікай друкарні Прагі. Выказваецца думка, што ў 1514 г. Ян Севярын і Францішак Скарына падрыхтавалі тытульны ліст да выдання «Пяцікніжжа», напісанага на іўрыце. Даследуецца ўздзеянне на філасофію і літаратурна-мастацкую творчасць Скарыны паэта-філасафа Дантэ Аліг'еры, мастака Сандра Баціэлі і знакамітага майстра гравюры Альбрэхта Дзюрэра. Кніга адрасуецца навуковым супрацоўнікам – даследчыкам спадчыны Скарыны, філосафам, гісторыкам, мастакам, студэнтам і ўсім, хто цікавіцца духоўнай культурай Беларусі.




**Радзік Рышард. Вакол ідэнтычнасці беларусаў. Пер. з польск. мовы С. Петрыкевіч; навук. рэд. Г. Сагановіч. – Мінск: Лімарыус, 2017. – 309 с. (Бібліятэка часопіса «Беларускі Гістарычны Агляд»).**

Новая праца выдатнага польскага сацыёлага прысвечана малавядомым аспектам беларускай ідэнтычнасці, якая аналізуецца ў сувязі з расійскім супольнасным імперыялізмам – імкненнем разглядаць беларусаў і ўкраінцаў як адгалінаванні «трыадзінага рускага народа». Даследаванні дапаўняюць развагі аўтара над класічнымі творамі беларускай літаратуры і кнігамі, што адлюстравалі ідэалогію цяперашняй беларускай дзяржавы.




**Булавацкі Міхась. Беларус у Беларусі. Эпісталярыі пра мову і маральнасць. – Смаленск: Інбелкульт, 2017. – 336 с.**

Гэта кніга рэдкага жанру – зборнік ліставанняў чалавека, беларуса, з інстанцыямі па статусе беларускімі, але па сваёй дзейнасці пераважна антыбеларускімі, хаця і тут ёсць прыемныя выключэнні. Размова ідзе пра камфортнасць ці дыскамфортнасць пражывання беларуса на сваёй зямлі, пра яго змаганне з бюракратычнай сістэмай за беларускую мову, якая спрабуе выжыць ужо 320 гадоў, і пра маральны змест барацьбы за яе. Кніга будзе карыснай асабліва тым, хто вядзе гэткую ж барацьбу ці гатовы да яе падключыцца, а таксама навукоўцам, якія даследуюць аспекты гісторыі Беларусі апошніх трыццаці гадоў, найперш яе сістэмы адукацыі.




**Мір Радзівілаў: замак, мястэчка, графства (1568–1813 гг.): зборнік дакументаў і матэрыялаў. Склад. А. І. Шаланда. – Мір: Музей «Замкавы комплекс «Мір», 2017. – 338 с.: іл. + карта.**

Выданне ўяўляе сабой зборнік дакументаў і матэрыялаў на старабеларускай, польскай і лацінскай мовах па гісторыі мястэчка Мір, Мірскага замка і графства ў часы валодання імі князямі Радзівіламі (1568–1813). Падрыхтаваныя да друку дакументы і матэрыялы адлюстроўваюць паўсядзённае жыццё тагачасных гаспадароў Міра, мясцовых жыхароў, стан Мірскага замка, а таксама палітычныя, сацыяльна-эканамічныя і культурна-рэлігійныя працэсы ў мястэчку і графстве. Большасць дакументаў і матэрыялаў упершыню ўводзіцца ў навуковае абарачэнне. Для гісторыкаў, археографаў, краязнаўцаў, музейных супрацоўнікаў, а таксама ўсіх, хто цікавіцца праблемамі лакальнай гісторыі Беларусі.




**Чарнякевіч Андрэй. Чужы сярод чужых: Павел Аляксюк і беларускія «паланафілы». – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2017. – 317 с.**

У новай кнізе вядомага даследчыка айчыннай гісторыі XX ст. Андрэя Чарнякевіча ў жанры палітычнай біяграфіі апісваецца жыццё і дзейнасць Паўла Алексюка – адной з самых супярэчлівых фігур беларускага на цыянальнага руху першай трэці XX ст. Кніга напісана на багатым фактычным матэрыяле, з прыцягненнем новых дакументальных крыніцаў. Будзе цікавай як спецыялістам-гісторыкам, так і самаму шырокаму колу чытачоў.




**Гужалоўскі Аляксандр. Сэксуальная рэвалюцыя ў Савецкай Беларусі: 1917–1929 гг. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2017. – 258 с.: іл.**

Першае ў айчыннай гістарыяграфіі комплекснае даследаванне радыкальных зменаў у сямейна-шлюбных адносінах і сэксуальным жыцці беларускага грамадства пасля бальшавіцкага перавароту 1917 г. Першае дзесяцігоддзе савецкай улады характарызавалася неверагоднай нават па сённяшніх мерках свабодай нораваў. «Сэксуальная рэвалюцыя» (менавіта такі тэрмін выкарыстоўваецца ў навуцы) прывяла да дэзарганізацыі традыцыйнага сямейна-шлюбнага ладу і нарматыўнай няпэўнасці, паслаблення інстытута шлюбу і заснаванай на ім сэксуальнай маралі. Кніга напісана на багатым фактычным матэрыяле, з прыцягненнем новых архіўных крыніцаў. Будзе цікавай як спецыялістам, так і самаму шырокаму колу чытачоў.




**Мельнікаў Андрэй. Анатоль Сыс: Псальмяр эпохі перагною. – Мінск: «Харвест», 2017. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Анатоль Сыс (1959–2005) – таленавіты сучасны паэт. Яго паэзію можна аднесці да псальмаў той Беларусі, якая выйшла з савецкай эпохі і стала перагноем для росту Беларусі будучай. Пры жыцці пабачылі свет тры зборнікі вершаў Сыса, пасля смерці выйшлі яшчэ чатыры. А колькасць напісанага пра яго значна перавысіла тое, што напісаў ён сам.

**Зелянкова Настасся. Леанід Маракоў: Чалавек, які не даў беларусам забыць пра свае ахвяры. – Мінск: «Харвест», 2017. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**




Леанід Маракоў (1958–2016) – гісторык, пісьменнік і журналіст, які даследаваў гісторыю знішчэння сталінскімі катамі і іх памагатымі грамадскіх і культурных дзеячаў Беларусі. Ён аднавіў біяграфіі больш за 20 тысячаў рэпрэсаваных літаратараў, навукоўцаў, святароў, працаўнікоў адукацыі і медыцыны. Тым самым Л. Маракоў здзейсніў грамадзянскі подзвіг, за які заплаціў заўчаснай смерцю.




**Быхаўцаў Мікалай. Гісторыя Касцёла на Ваўкавышчыне. – Мінск: Смэлтак, 2017. – 754 с.**

Спазнаванне гісторыі роднага краю праз гісторыю рэлігіі ў нашай краіне пакуль што тэма даволі рэдкая. Аўтар даносіць яе праз гісторыю рымска-каталіцкага Касцёла на тэрыторыі былога Ваўкавыскага павета, які праіснаваў да пачатку 1940 года і быў скасаваны савецкай уладай. Тэрыторыя Ваўкавыскага павета на працягу значнага перыяду гісторыі супадала з тэрыторыяй Ваўкавыскага рымска-каталіцкага дэканата, які ўваходзіў у Віленскую дыяцэзію (біскупства) да 1991 года, калі паўстала Гарадзенская дыяцэзія. Кніга змяшчае шмат арыгінальных фактаў, выяўленых у архівах і ўспамінах сучаснікаў падзей, і падзеленая на дзве часткі. У першай з іх даецца апісанне агульнай гісторыі Касцёла на Ваўкавышчыне, у другой – апісанне гісторыі паасобных касцёлаў.




**Шаруха Ігар. Край у цэнтры Еўропы: Полацкі раён, Полацк, Наваполацк: геаграфічна-статыстычны даведнік. Прадм.: У.А. Арлоў; пад рэд.: І.М. Шарухі, С.С. Украінкі, С.М. Лясовіч. – Мінск: Колорград, 2017. – 196 с.: іл.**

Выданне дае інфармацыю пра амаль 4000 геаграфічныя аб'екты Полаччыны. Змешчаны геаграфічныя характарыстыкі раёна, раённага цэнтра, гарадскіх і сельскіх паселішчаў, кароткія апісанні сельскіх саветаў, радовішчаў карысных выкапняў, зонаў адпачынку, лясных масіваў, рэк і ручаёў, азёр, балот, урочышчаў, прыродаахоўных тэрыторыяў і некаторых іншых фізіка-геаграфічных аб'ектаў. Адрасуецца краязнаўцам, географам, гісторыкам, эканамістам, студэнтам прыродазнаўчых і гуманітарных спецыяльнасцяў, навучэнцам школаў, гаспадарам і гасцям аграсядзібаў, турыстам. Уяўляе цікавасць для кіраўнікоў органаў выканаўчай улады, прадпрыемстваў і ўстановаў.

Кнігі можна замовіць ці набыць па наступных адрасах:

**«Акадэмічная кніга»,** г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 72; e-mail: akademknigaminsk@mail.ru, тэл.: +375 17 292 00 52, 292 46 52, 292 50 43, **«Кніжны салон»** (вул. Калініна, 5), **«Кнігарня пісьменніка»** (вул. Казлова, 2), **«Веды»** (вул. К. Маркса, 36), **«Светач»** (пр-т Пераможцаў, 11), **«Цэнтральны кніжны»** (пр-т Незалежнасці, 19), **«Кніжная Шафа»** (пр-т Дзяржынскага, 9), **«Кнігі & кніжачкі»** (пр-т Незалежнасці, 14), **Кніжная выстава-кірмаш «Мир книг»** (пр-т Пераможцаў, 84).

А таксама ў інтэрнэт-крамах: knihi.by, prastora.by, imbryk.by, kniharnia.by, halijafy.by і e-kniga.by.

# Тры плюс два

**27 верасня ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры ўзнагародзілі лаўрэатаў «Экслібрыса». Ад імя музея выступіла Вольга Гулева, яна ж напрыканцы імпрэзы прыняла падарунак ад Саюза беларускіх пісьменнікаў: серыю вядомых здымкаў, на якіх пісьменнікі прымерылі ролі паганскіх боствaў.**

Нагадаем: «Экслібрыс» – штогадовы літаратурны конкурс, які гэтым разам насіў імя Францішка Скарыны і быў прысвечаны мастацкаму перакладу. Логіка простая: перакладчыкам надалі асаблівую ўвагу на знак 500-годдзя выхаду першай беларускай кнігі, скарынаўскага перакладу «Псалтыра».

У цырымоніі бралі ўдзел пераможцы, прызёры конкурсу і асобныя члены журы. Аздоба вечара – музыка Андруся Такінданга і яго сяброў.

Лаўрэаты былі вядомыя. Так, першае месца за пераклад «Найлепшага месца на Зямлі» Тэрэсы Тышыньскай атрымала Іаанна Владыка. Гэта мемуары пані Тышыньскай, напісаныя па-польску. Тышыньскія жылі ў вёсцы Мясата пад Маладзечна; там жа жыла прабабуля перакладчыцы. Звілістымі шляхамі гэтыя мемуары адваявалі права жыць і быць пачутымі. Фрагмент, зачытаны на вечары, паказаў, што гэта цікавы і атмасферны твор, які адлюстроўвае побыт шляхецкай сям'і на зломе эпохаў. Узнагароду пераможцы ўручыў сябра журы, паэт Андрэй Хадановіч, які адзначыў: гэта не столькі пераклад, колькі вяртанне твора беларусам.

– Сапраўды, я хацела вярнуць гісторыю гэтай сям'і, каб яна стала часткай нашай агульнай гісторыі, – кажа лаўрэатка. – Ёсць тут і смех, і боль, і смутак, бо многае было страчана для Тышыньскіх пасля 1939 года.

Іаанна Владыка ўжо друкавала ў «Маладосці» пераклады з ангельскай. Аднак пабачыўшы сваё імя ў спісе першых, не паверыла.

– Я да апошняга сумнявалася: пераклад быў так хутка зроблены, я баялася, што мяне раскрытыкуюць ушчэнт. Магу таксама працаваць з французскай мовай, але пакуль рабочыя – польская і ангельская.

Другое месца заняў Алесь Емяльянаў-Шыловіч. Журы адзначыла яго пераклады з Адама Загаеўскага, Анны Свіршчынскай, Юльяна Тувіма, Уістэна Х'ю Одэна, Нормана МакКейга. Узнагароду лаўрэат атрымаў з рук сябры журы, перакладчыцы Алены Пятровіч.

– Цяпер я пашыраю кола аўтараў, моваў, – распавёў Алесь. – Хачу ўзяцца за кітайскую, праўда, з падрадкоўнікамі. Так, я маю кнігу перакладаў, але не чакаў з гэтае нагоды асаблівай да сябе ўвагі. Я сам бываў у журы падобных конкурсаў, і для мяне не мае аніякага значэння, ці з'яўляецца ўдзельнік кандыдатам навук, ці мае ён кнігу, ці дзесяць кніг. Ёсць яшчэ такі нюанс, як актуальнасць: можна перакласці твор з нейкай старызны, але калі гэта нікому не цікава, то навошта?.. А ёсць такія тэксты пяцісотгадовай даўніны, якія ў сучасным кантэксце набываюць новае гучанне.

«Бронзавага» прызёра Сяргея Матырку віншавала сябра журы Ганна Янкута. Сяргей заявіў пра сябе «Вялікім Гэтсбі» Фіцджэральда. Пасля прызнаўся: твор абіраў з аглядкай на папулярнасць. Вядома ж, хочацца, каб пераклады знайшлі чытача, а не заставаліся ў шуфлядзе. Сяргей займаецца перакладамі з нямецкай (асноўная мова) і англійскай.

– Сказаць па шчырасці, я перакладаю даволі працяглы час. Але свой першы вялікі пераклад проста паклаў у шуфляду і баюся яго даставаць. Гэта твор сучаснага аўстрыйскага пісьменніка, вельмі спецыфічны. Урывак з яго я паказваў выдаўцу, але ён сказаў: гэта для чытача вельмі адмыслова-га… Але я не губляю імпэту. Да беларускай мовы мяне прывяла маці, і кнігі я абіраю такія, якія хачу, каб прачытала мама. Яна ўсё жыццё працавала на вёсцы, любіць Караткевіча, Шамякіна – словам, класіку. Сяргей упэўнены: «Вялікі Гэтсбі» – з тых твораў, якія заўжды мусяць быць на паліцах беларускіх кнігарняў. І ён здзіўлены, што кнігу Фіцджэральда дагэтуль ніхто не пераклаў.

Адметнасць «Экслібрыса»-2017 – наяўнасць двух дадатковых прызёраў. Сёлета на конкурс даслалі каля 30 працаў, і сярод іх было шмат годных, таму абмежавацца трыма пераможцамі журы не магло. Так, адзначылі пераклады вершаў Юльяна Тувіма, якія даслала Надзея Квасняк, і празаічны пераклад Гектара Х'ю Манро, дасланы Яўгеніяй Лабоха.

Як зазначыў старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч, усе адзначаныя пераклады будуць надрукаваныя ў часопісе «Дзеяслоў». Таксама лаўрэаты і прызёры атрымалі падарункі ад арганізатара конкурсу.

**Наста Грышчук, для lit-bel.org**

■ АЎТОГРАФ

# «Найперш трэба пазнаваць скарбы беларускай мовы...»

*(Пачатак на стар. 1)*

**– Цікава, а колькі ўсё ж моваў Вы ведаеце? На якіх мовах Вы можаце гаварыць і чытаць, з колькіх моваў перакладалі?**

– Больш-менш звязна я магу размаўляць на васьмі мовах, чытаю адносна свабодна на дваццаці, а перакладаў больш як з трыццаці розных моваў (у тым ліку карыстаючыся кансультацыямі такіх прызнаных беларускіх паліглотаў, як Сяргей Шупа, Мікола Бусел або Якуб Лапатка).

**– Распавядзіце, калі ласка, над чым Вы цяпер працуеце? Творы якіх замежных аўтараў Вы хацелі б ці лічыце вартым перастварыць па-беларуску?**

– Разам з выдаўцом Змітром Коласам мы заняліся вельмі амбітным праектам – выданнем серыі кніжак кішэннага фармату ў серыі «Паэты планеты». За менш як паўтара года ў серыі выйшла 30 перакладных кніг, прычым кнігі грэкаў Сапфо і Канстандзінаса Кавафіса, італьянца Петраркі, немца Гёльдэрліна, чэха Яраслава Вырхліцкага перакладзеныя мною. Істотнае месца мае пераклады занялі ў кнігах француза Рансара (побач з перакладамі Ніны Мацяш і Змітра Коласа), паляка Каханоўскага (пераклады рабіліся разам з Андрэем Хадановічам), немца Гётэ і аўстрыйца Геарга Тракля (з Васілём Сёмухам). Асновай некалькіх кніжак паслужылі класічныя пераклады Рыгора Барадуліна; мы з калегамі як бы дапаўнялі барадулінскія перастварэнні румына Эмінэску і знакамітага габрэйскага паэта Хаіма Нахмана Бяліка, англічаніна Джона Кітса (з групай маладых перакладчыкаў), іспанца Хіменэса (з Якубам Лапаткам) і інш. Па-за серыяй быў выдадзены салідны том шведскага Нобелеўскага лаўрэата Тумаса Транстромера, над перакладамі якога, акрамя мяне, таксама працавалі Уладзімір Арлоў, Алеся Башарымава і згаданы мною Андрэй Хадановіч. Цяпер я працую над чарговымі кнігамі для названай серыі – нарвежца Сігб'ёрна Обстфельдэра (разам з Лідыяй Ёхансэн) і італьянца Джакама Леапардзі (разам з Аксанай Данільчык). У планах таксама працяг некалі пачатай працы над перакладамі з партугальца Фернанду Песоа, англічаніна Томаса Стэрнса Эліята, старажытнага грэка Анакрэонта…

У найбліжэйшы час у маім перакладзе павінна з'явіцца вялікая вершаваная драма польскага паэта-рамантыка Юльюша Славацкага «Баладына», якую я заканчваю рэдагаваць і вычытваць. Маю надзею, што не пазней, як найбліжэйшай вясною, з друку выйдзе падрыхтаваны яшчэ недзе 5 гадоў таму том твораў самых выбітных драматургаў Старажытнай Грэцыі: сем п'ес пераклаў я сам, а пераклад яшчэ дзвюх належыць выдатнаму беларускаму перакладчыку мінулага стагоддзя Юльяну Дрэйзіну (1879–1942). Да гэтага саліднага тома напісана грунтоўная прадмова Алеся Жлуткі.

## «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Мудроў Вінцэсь. Забойца анёла. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – (Бібліятэка Саккза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 93). – 256 с.**

Вядомы празаік, адзін з найбольш яркіх аўтараў полацкага андэргpаўнду 1970-х, падрыхтаваў новую кнігу «Забойца анёла». Зборнік складаюць трынаццаць апавяданняў, напісаных цягам апошняга дзесяцігоддзя. Апавяданне, якое дало назву зборніку прозы, расказвае пра незвычайную сустрэчу на беразе Волгі. ...Беларус прыязджае на працу ў глухую вёску на ўзбярэжжы Волгі, і ўсё было б шэра і будзённа, але пра гаспадара хаты ходзяць няўцямныя чуткі. Некалькі гадоў таму, ён вярнуўся з палявання, якое цалкам змяніла ягонае жыццё, ператварыла яго ў пакуту і немарач. На качыным паляванні ён выпадкова забіў свайго анёла...




**Васіль Быкаў. Сваякі. Графічны раман. Ілюстрацыі Яна Жвірблі. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 32 с.**

Адмыслова да Дня народзінаў Васіля Быкава Саюз беларускіх пісьменнікаў выпусціў апавяданне «Сваякі», зробленае ў жанры графічнага рамана маладым мастаком Янам Жвірблем. Жорсткі твор Васіля Быкава пра тое, як маці, паспадзяваўшыся на сваяцтва з вясковым паліцаем, неўпрыцям адпраўляе дваіх сыноў на смерць, праілюстраваны гэтак жа бязлітасна востра. Экспрэсіўныя, натуралістычныя і поўныя трагізму малюнкі мастака нагадваюць, што гэта зусім не просценькі комікс для дашкольнікаў, а паўнавартасны графічны раман. Апавяданне Быкава ў аздабленні Яна Жвірблі робіць фанатам коміксаў і аматарам авангарднай кніжнай графікі сапраўдны падарунак.




**Вітаўт Кіпель. Беларусы ў ЗША. – 2-е выд., дапрац. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 31). – 632 с.**

У серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны» МГА «Згуртаванне беларусаў свету» «Бацькаўшчына» пабачыла свет другое выданне кнігі патрыярха беларускай эміграцыі на Захадзе Вітаўта Кіпеля «Беларусы ў ЗША». Кніга ў больш як 600 старонак багата ілюстраваная, дапрацаваная і дапоўненая новай інфармацыяй з улікам апошніх двух дзясяткаў гадоў, што мінулі ад часу яе першага беларускага выдання ў 1993 годзе. Як адзначае навуковая рэдактарка кнігі Наталля Гардзіенка, «падрыхтоўка другога выдання заняла каля двух гадоў супольнай працы самога Вітаўта Кіпеля, архівіста Лявона Юрэвіча і маёй як рэдактара. Гэтае выданне стала асабліва важным для мяне як магчымасць выказаць павагу і падзяку чалавеку, якога бязмежна паважаю як асобу, як даследчыка, як беларуса». Другое выданне «Беларусаў у ЗША» пабачыла свет да 90-х угодкаў аўтара. Пытайцеся ў кнігарнях!

## КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: lohvinaupress@gmail.com,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ІП «Уладзімір Сіўчыкаў»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65




ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
КНІГА НОША
№ 46
кастрычнік, 2017
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 46 17.11.2017.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com